Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ВЫХОДЗІЦЬ ТРОЙЧЫ У ТЫДЗЕНЬ.

Рэдакцыя і Адміністрацыя — Вострa-Брамская, № 9 — адчынена што дня, апрача сьвята, 8—12 і 3—5.



Год I. Пятніца, 13 чэрвеня 1919 г. № 21.

## Беларускі Зьезд.

Толькі што закончыўся Беларускі Зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны, пакінуўшы па сабе шмат вельмі важных пастаноў, каторыя будуць мець сваё гістарычнае значэньне.

Як і трэба было спадзявацца, Зьезд з асобнай сілай падчыркнуў права беларускага народу на адбудову сваей незалежнай і непадзельнай дзяржавы. Гэта пастанова мае вялізарнае значэньне асабліва таму, што яна разьбівае ў шчэнт ідэю Бела-Польшчы, якую хацелі будаваць у Заходняй Беларусі некаторыя польскія палітыкі з правага боку.

Цяпер ім трэба будзе зусім пакінуць гэтыя брэдні аб тым, што Беларусь дзеліцца на дзьве паловы: заходнюю і ўсходнюю, што у заходняй жывуць людзі, бліжэй усяго стаячыя да Польшчы, а ў усходняй людзі, бліжэй стаячыя до Расеі. Беларусі, па гэтай тэорыі, няма, а ёсьць тэрыторыя і нейкія людзі, каторых трэба падзяліць паміж Польшчай і Расеяй.

Зьезд Горадзеншчыны і Віленшчыны паказаў, што ніякай Бела-Польшчы няма і не магло быць, што Бела Польшча — выдумка.

Беларусы Віленшчыны і Горадзеншчыны так сама, як летась беларусы усходнія, абвесьцілі незалежную і непадзельную Беларусь.

Вельмі важная пастанова прынята і аб адносінах да Літвы, с катораю Беларусь хацела-б адбудаваць супольную Беларуска-Літоўскую дзяржаву.

Беларуска-Літоўскі саюз прыносіць карысьць абодвым народам, умацовываючы абодва народы з боку палітычнага, эканамічнага і інш.

Гісторыя так сама за абнову братніх адносін і саюзаў паміж беларусамі і ліцьвінамі, жыўшымі калісь ў адным гаспадарстве. З Латвіяй Беларусь так сама хацела б заключыць саюз эканамічны і палітычны.

Што датычыць да Польшчы, дык з ёю Беларусь хацела-б мець самыя добрыя адносіны. Зьезд высказаў надзею, што польская дэмакрацыя, якая вядзе барадзьбу з польскімі імпэрыялістамі і анэксыяністамі, заложыць фундамэнт для прыязных адносін паміж абодвых народаў. Беларусы, да той пары, пакуль ім не перастане гразіць небасьпечнасьць польскага імпэрыялізму, устрымаліся ад салодкіх слоў, каб потым не пашкадаваць. Зьезд высказаў катэгарычны пратэст проціў развязаньня беларускага дзяржаўнага пытаньня ў варунках Колчака.

Лук—аш.



## Адкрыцьце Беларускага Зьезду.

### Фармаваньне Беларускага войска.

У 12 гадзін 9 чэрвеня у залі Беларускай Гімназіі Арганізацыйны Камітэт Зьезду абвешчае Беларускі Зьезд Віленшчыны і Горадзеншчыны адчыненым. Гр. Я. Станкевіч ад іменьня Арганізацыйнага Камітэту вітае зьезд і выказывае надзею, што у гэты гістарычны мамэнт, калі на Беларусь звернена увага усяго сьвету, калі развязываецца справа Беларускага Гаспадарства (Гасударства) прадстаўнікі Віленшчыны і Горадзеншчыны запраўды выкажуць волю Беларускаго Народу, каторы іх сюды паслаў.

Далей аднагалосна выбіраецца Прэзыдыум зьезду. Старшыней зьезду выбраны П. Алексюк, таварышамі старшыні М. Кахановіч і К. Душэўскі. Сэкрэтарамі Я. Мурашка і Я. Чарапук.

Старшыня Зьезду П. Алексюк вітае Зьезд, як адчынены у старой нашай сталіцы Вільні. У даўгой гарачай прагрмнай прадмове пры наэлектрызыванай залі Старшыня успамінае, што калісь беларусы былі народам з высокаю культураю, яны кіравалі Вялікім Князьствам Літоўскім. Беларускі Народ сотні гадоў быў культурным, дужым і незалежным дзяржаўным народам. Потым з прычыны таго, што блага пакіравалася для нас гісторыя, Беларускі Народ занепаў і заснуў, хоць беларуская ідэя ніколі не замірала. І сталі усе здзекавацца над беларусамі, уціскаць іх, бо беларусы спалі і не маглі бараніцца. Але нацыянальнае пачуцьцё і зразуменьне сваіх па трэб жыло у шырокіх беларускіх массах. З іскры узьняўся вялікі пажар беларускага адраджэньня. Беларускі рух, каторы з пачаткуб здавалася, насіў толькі культурны характар, з настаньнем палітычнай свабоды у Расеі, шырока выбухнуў, як вялікая палітычная і дзяржаўная сіла. Абхапіў ён усю Беларусь: і Магілеўшчыну і Віцебшчыну і Меншчыну і інш. І ўсю ды Беларусы дамагаліся аднаго: незалежнасьці і непадзельнасьці Беларусі, аб чым асабліва голасна заявілі усяму сьвету вуснамі Рады Беларускай Народнай Рэспублікі. Гэтае дамаганне Беларускага Народу свае незалежнасьці і непадзельнасьці выказана ярка, як на заходзе Беларусі у Віленшчыне, Горадзеншчыне, што былі пад нямецкай акупацыей, так і на усходзе Беларусі, што была пад панаваннем маскоўскім. Цяпер нашая дарога ясная і простая: гэта — незалежнасьць і непадзельнасьць Беларусі, і хто з нашых суседзяў прызнае нашае на гэто права, той наш прыяцель, хто непрызнае — той непрыяцель.

Далей прамоўца пераходзіць да адносін з нашымі суседзямі. Перш наперш з літвінамі. З Літоўскім Народам нас лучыць слаўная гістарычная мінуўшчына, з Літвой злучае нас агульнае гаспадарскае і прамысловае жыцьцё і толькі будучы разам з Літвою, мы будзем мець доступ да Балтыцкага мора. Дзеля гэтага думка аб конфэдэрацыі Беларусі з Літвой праводзілася з самаго пачатку беларускаго руху усімі беларускімі соцыялістычнымі і несоцыялістычнымі партыямі. Думка гэтая, каторая была заўсёды беларускім ідэалам, цяпер асабліва пашырана паміж беларусамі. Дзеля гэтага мы асабліва вітаем адозву Пілсудскага да грамадзян бышага Вялікага Князьства Літоўскага, значыцца перш наперш да беларусаў і літвіноў, каторыя складаюць мясцовае насяленьне гэтае зямлі.

### Мэморыял Міністра Беларускіх Спраў.

Міністр Беларускіх Спраў Літоўскага Правіцельства Язэп Варонко падаў старшыні Паўночна-Амэрыканскай Ваенна-Палітычнай Міссыі у Коўне лейтэнант-палкоўніку В. Гріну мэморыял аб палажэньні Беларусі і Беларускага Народа з 1-га сьнежня 1918 года да 1-га чэрвеня 1919 года. Мэморыял заключае у сабе массу дакумэнтаў аб барацьбе беларусаў з палякамі, аб гвалтах польскае арміі і г. п. і напісаны на 28 аркушоў.

### Сярод духовенства.

У Вільні сярод самых віднейшых прадстаўнікоў праваслаўнага духавенства пачаўся пералом у настрою, каторы адзначыўся у тым, што яны абмеркавалі паддзержываць беларускую раду у яе кіраваньях і пачынаньнях.

Апроч таго, „левае“ крыло духавенства мае замер зьвярнуцца афіцыяльна у раду з просьбаю аб такой ці гэткай дапамозі у матэр'яльнай незабясьпецы.

### Ад бальшавіцкага тэррора.

Каб ня трапіць у закладнікі да бальшавікоў, з Менска паўцекалі цэлыя партыі людзей у бліжэйшыя гарады: Вільню, Горадню, Беласток і інш.

### Доктар Домашэвіч выпушчаны.

Арыштаваны доктар А. Домашэвіч, як хворы, выпушчаны.

### Арышт

Надоячы была рэвізыя у доктара Станіслава Матуляйціса, каторага потым арыштавалі, падазрываючы у ім комуніста

### М. Гутман хворы.

Як падаюць да ведама, вядомы работнік дзеяч і журналіст М. Гутман, арыштованы з першых дзён польскай окупацыі, захварэў у турме на тыфус і знаходзіцца у вельмі цяжкім палажэньню.

### Растрэл комісара

Водле афіцыяльнай абвесткі, Ново-Свенцянскі бальшавіцкі комісар Альфонс Янкоўскі засуджан на сьмерць за тое, што ён калісьці загадаў растрэляць аптэкара Букоўскага і іншых. Прыгавор ужо споўнен.

### Мука.

Як нам падаюць да ведама, у сераду у Вільню прыбыло 17 вагонаў мукі. Гэтыя вагоны цяпер знаходзяцца на ветцы Тышкевіча. Муку ужо пачалі выгружаць.

### Яйцы.

З чацьвера пачалася продаж у ва усіх кооператыўных крамах толькі што прывезенай партыі яец. На каждую карту даецца 10 яец.

### Селядцы.

Сяньні у пятніцу, у народных кухнях будуць даваць, апроч абеда, селядцы.

### Артыста-маляр Б. Цукерман.

Артыста-маляр Б. Цукерман заняты сэрыяю абразоў „Старая Вільня“.

### Зялежнадарожны рух.

У бок Менска ад Вільні паязды ходзяць толькі да Маладэчна.

Дзеля таго, што быў папсаваны мост, пуць на Горадню і Варшаву быў вельмі кружны: Вільня—Ліда—Ваўкавыск—Беласток—Горадня—Варшава.

Цяпер ізноў паладжана ранейшая карацейшая мыгістраль.

### Таварны рух.

Надоячы ізноў пачаўся таварны рух на чыгунках. Шмат вагонаў з таварамі, каторыя затрымаліся у Варшаве, ужо адпраўлены сюдою.

### Цэны

*Хлеб* у Вільні — 5 р. 50 к., у Горадне—2 р. 50 к., у Беластоку—2 р. 20 к.

*Цукар* у Вільні—20 р., у Горадне—15 р., у Беластоку—10 р.

*Салаініна* у Вільні—15 р., у Горадне—15 р., у Беластоку—10 р.

---

## Ліст у рэдакцыю.

Паважаны Пане Рэдактар!

Не адмоўцеся праз пасьрэдніцтва рэдактаванай Вамі газэты апавесьціць знаходзячыхся у Германіі ваенна палонных беларусаў (праваслаўных і каталікоў, ураджэнцаў Горадзенскае, Віленскае, Мінскае, Магілёўскае і другіх губерняў), што Канцалярыя Міністэрства Беларускіх Спраў Літоўскага Ураду у Коўне (вуліца Міцкевіча дом 13а) безплатна дае усялякія справкі па усім пытаньням, якія цікавяць беларусаў.

Канцэлярыя Міністэрства Беларускіх Спраў.

Коўна, 14 мая 1919.

---

# З усіх старон.

### Яшчэ адна небясьпека германскай еднасьці.

Ангельская газэта «Morning Post» паведамляе, што водле вестак з Бромбэргу, паўстаў проэкт стварэньня незалежнай рэспублікі Усходняй і Заходняй Прусіі, з абшарам усьцяж да Віслы. Празыдэнтам гэтай рэспублікі павінен стаць біскуп эрмлянндзкі. Эрмлянд—вобласць ў Усходняй Прусіі, ляжачая ад Алленштэйна да мора.

### Конгрэс уціснутых нацыянальнасьцяў.

У Бэрліні у першых днях чэрвеня мяркуецца згуканьне конгрэсса з прадстаўнікоў старон, пазбаўленых магчымасьці вольна азначыць сябе. Прыймаць вучасьце у конгрэсі меліся ірляндцы, аўстрыяцкія немцы, эльзасцы і лётарынгцы, жыхары Шлезвіг - Гольштыніі, немцы — насельнікі усходніх абшараў Германіі, фламандцы, персы, эгіпцяне.

---

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць каліўца часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—ніхай ён будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую рэдакцыю.*

---



Рэдактар і выдавец У. Знамяроўскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стефанаўская, 26.